БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

# ЦАРКОЎНЫЯ НАВІНЫ — CHURCH NEWS

BELARUSAN AUTOCEPHALOUS ORTHODOX CHURCH
Published by Parsh of St. Kiryla of Turau
524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont., Canada, M6H 3W7. Tel. (416) 530-1025

Год. 13 | Каляды, 1994 | 2(51)

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Любасныя ў Госпаду пастыры, шаноўнае манаства і ўсе багалюбныя вернікі сьвятой Беларусі!**

«Божая любоў да нас у тым выявілася,
што Бог паслаў на сьвет адзінароднага
Сына Свайго, каб мы жылі праз Яго».
(1Яна 4:9)

Дарагія Браты й Сёстры!

### ХРЫСТОС НАРАДЗІСЯ!

Уся Сьвятая Праваслаўная Царква сяньня духоўна сьвяткуе й праслаўляе нараджэньне Госпада Бога нашага Ісуса Хрыста, Які «Дзеля нас людзей і дзеля нашага ратынку сыйшоў зь неба, і прыняў цела ад Духа Сьвятога й Дзевы Марыі, і стаўся Чалавекам».

Сьвяткуючы гэтую вялікую, цудоўную й нявымоўную таямніцу выратаваньня роду людзкога, мы вачыма веры нашай бачым Ісуса Хрыста ў Бэтлеемскіх ясьлях і разам з пастушкамі пакланяемся народжанаму Дзіцятку. Мы цешымся зь Ягонага прыходу на зямлю, праслаўляем Яго і прыносім Яму ў ахвяру нашую веру й любоў.

Усіх Вас, дарагія мае браты й сёстры па ўсім сьвеце раскіданых, сардэчна вітаю зь вялікім сьвятам Нараджэньня Хрыстовага й жадаю ўсім лепшага жыцьця ў надыходзячым Новым Годзе. Зычу усім Вам увайсьці ў Новы Год дабрыні Божай азоранымі воблескам каляднага сьвятла. Хрыстос прыйшоў у гэты сьвет, які глыбака «у зьле ляжыць», каб выратаваць і каб зьяднаць людзей, перш за ўсё з Богам ды і аб'явіць нам новыя наказы Дабравесьця. Любоў да свайго бліжняга — адзін з Хрыстовых наказаў, і ён гэты наказ нам сёньня асабліва патрэбны.

Сёньня ў Беларусі працягваецца рух да духовага адраджэньня беларускага народу. Але, як бачым на гэтым шляху ставяць нашаму народу вялічэзныя перашкоды. Перашкоды гэтыя трэба перамагаць любоўю.

Дарагое й любаснае сьвятарства, няхай ня будзе абыякава Вам, як духоўным правадыром парафіяў, стан нашай мовы ў сьвятынях Божых. Адважцеся на самаахвярныя ўчынкі, каб зьняць нашую мову з крыжа пакутаў. Няхай растуць рады змагароў сярод Вас. Гэта наш сьвятарскі сьвяты абавязак ахоўваць і бараніць наш дар Божы, родную мову. Сто гадоў таму Францішак Багушэвіч заклікаў нас «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!»

Дарагія й любасныя суродзічы. Дабрароднае зерне пасеянае ўжо, яно ўпала на ўрадлівую глебу й дае свае парасткі. Ня гледзячы на тое, што чужыя зьверхнікі ўзяліся вырываць іх, парасткі будуць прарастаць надалей, бо гэта — Божая воля, каб народ маліўся на сваёй роднай мове. Бог разумее й нашую сьвятую беларускую мову. Той, хто супраць роднай мовы ў царкве, ён грашыць супраць Сьвятога Духа. Бо, як ён можа тлумачыць цуд учынены Сьвятым Духам, што ўсе народы чулі сьв. апосталаў, што яны гаварылі да іх іхнай роднай мовай. Гэта ж у Дабравесьці напісана: «Як жа настаў гук, зышлася множасьць, і былі зумеўшыся, бо кожны чуў, што яны гаворадь да іх іхнай мовай» (Дзеі 2:6). Мова гэта — дар Божы народам і кожны народ мае Божае права маліцца, думаць і гутарыць на роднай мове. А наша беларуская мова сьвятая нам, бо дараваная Богам.

Падумаймa пра гэта дарагія мае, у Дзень Раджэньня Хрыстовага, у Дзень прыйсьця Таго, Хто стаўся ўвасабленьнем бязьмежнай любові да чалавека. Любем адзін аднаго, любем народ і край свой, і любоў нас выратуе. «Бо, — як сказана ў Дабравесьці, — нарадзіўся нам сёньня ў месьце Давідавым Ратаўнік, Які ёсьць Хрыстос Госпад» (Лк. 2:11).

Хрыстос нараджаецца — Яго слаўце!

Нараджэньне Хрыстовае,
Божага году 1994,
Таронта, Канада

Архіяпіскап Мікалай
Мітрапаліт БАПЦ

### СХОДКА ПАРАФІЯЛЬНАЙ РАДЫ

У дні 16 кастрычніка і 6 лістапада адбулася сходка Парафіяльнай Рады, парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. На парадку дня разглядаліся справы: выбары старшыні Парафіяльнай Рады, калядная пара — багаслужбы, ялінка й абыход са сьвятой вадой, справа гаспадаркі маемасьці Слуцак. Выбраны Старшынём Парафіяльнай Рады, — Сьцяпан Прахарук, заступнікам Старшыні, — Аляксандар Максімюк, Сакратар Парафіяльнай Рады, — Мікола Ганько, Скарбнік Парафіяльнай Рады, — Марыя Ганько, Адміністратар парафіяльнай маемасьці «Слуцак», — Яраслаў Раманоускі, Сябры Парафіяльнай Рады, — Галіна Мартынюк і Аляксандар Ніканович.

Як жа нарадзіўся Ісус у Бэтлееме Юдэйскім, у дні Ірада, мудрацы са ўсходу прыбылі да Ерусаліму й казалі: «Дзе кароль Жыдоўскі, што нарадзіўся? Бо мы бачылі на усходзе зорку Ягоную й прыйшлі пакланіцца Яму» (Мц. 2:1-2).

## СОРАК ГАДОЎ ТАМУ

2 травеня 1954 году на Нядзелю Тамаша быў рукапаложаны, тады яшчэ студэнт багаведы, Міхал Мацукевіч на дыякана.

6 травеня 1954 году на Сьвятога Юрыя, дыякан Міхал Мацукевіч быў рукапаложаны на ярэя.

Рукапалажэньне выканаў мітрапаліт Іларыён, Украінскай Праваслаўнай Царквы ў Канадзе.

4 кастрычніка 1954 году была адслужана першая багаслужба ў Беларускім Доме айцом Міхалам Мацукевічам.

## СОРАК ПЯЦЬ ГАДОЎ ТАМУ

19 сьнежня 1949 году на Сьвятога Мікалая ў Розэнгайм, Нямеччына, адбылася хіратонія архімандрыта Васіля (Тамашчыка) на япіскапа. Хіратонію выканалі япіскап Сяргей (Ахатэнка), япіскап Платон (Арцімюк) і япіскап Вячаслаў (Лісіцкі). Таго самага дня адбыўся Першы Сабор Япіскапаў аднаўленай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

## НОВЫ СЛУЖБОЎНІК

Сёлета ў канцы ліпеня выйшла другое выданьне Службоўніка па-беларуску. У службоўнік увайшлі Сьв. Літургія Яна Залатавуснага й Васіля Вялікага, а таксама Сьв. Літургія Раней Асьвячанай Ахвяры сьв. Рыгора Дваяслова. Службоўнік выдздены ў трох калёрах. Чырвоным колерам напісаны тлумачэньні, а сінім пададзена, калі можна сесьці ці трэба стаяць на Сьв. Літургіі. Паўнасьцю зьмешчана Абедніца, якую можна служыць заміж Сьв. Літургіі, калі дзеля нейкай прычыны літургіі ня можна служыць. Пры канцы пададзены асаблівасьці пры архірэйскім служэньні й у Вялікодныя сьвяты.. На самым канцы пададзена **ТРЭБА ВЕДАЦЬ**, гэта паясьненьні для сьвятарства. Прыгожа выдадзены, на добрай паперы на 380 страніцах. Службоўнік выдадзены за сродкі Парафіі Божай Маці Жыровіцкай БАПЦ у Кліўляндзе, ЗША.

На просьбу парафіянаў, архіяпіскап Мікалай рыхтуе другі службоўнік і гэтым разам мае быць адна бачына пабеларуску, а супрацьлежная паангельску. Гэты службоўнік толькі Сьв. Літургія Яна Залатавуснага без тлумачэньня пры архірэйскім і службаў на Вялікдзень. У гэты службоўнік увойдуць трапары, кандакі, пракімены зь іхнымі вершамі алілуяры зь іхнымі вершамі й праслаўленьні, усе восем сьпеваў васьмісьпеўніка, двунадзясятым сьвятам, Багародзіцы, Кірыла Тураўскага й Ефрасіньні Полацкай. Таксама з пазначаньнем, калі можна сесьці й калі трэба стаяць.

Службоўнік у трох калёра будзе яшчэ перавыдадзены ў Беларусі 1,500 асобнікаў, а таксама выйдуць з друку Парэміі — 1,000 асобнікаў і 10,000 асобнікаў малітоўніка. Усе тры перакладзены на беларускую мову архіяпіскапам Мікалаем, Мітрапалітам Б.А.П.Ц.

## ВЯСЕЛЬЛЕ

Спадарства Анатоль і Хрысьціна Храноўскія 17 верасьня 1994 г. выдалі сваю дачку Ларысу за Марка Андрэя (Mark-Andre) Roy, француза з Монтрэалю. Абрад шлюбу выканаў архіяпіскап Мікалай у асысце Высока Дастойнага др. айца Ігара Куташа, кіраўнічага Сьв. Сафіі Сабору ў Монтрэалі Украінскай Праваслаўнай Царквы ў Канадзе.

На вясельлі часьцілі госьці зь Беларусі, пасол Вярхоўнай Рады Беларусі сп. Аляксандар Шут і фатограф, журналіст сп. Анатоль Кляшчук.

Маладажонам жадаем добрага й шчасьліва супольнага жыцьця.

## АДЫШЛІ НА ВЕЧНЫ СПАЧЫН

Сёлета 1 кастрычніка ў горадзе Дэтроіт, ЗША у шпіталі, адышла ў вечнасьць на семдзясят сёмім годзе жыцьця спадарыня Кацярына Мазура. Мазурыха, як мы яе клікалі, была стойкай жанчынай, паходзіла з гораду Любані, на Случчыне. Яна была дзейнай у парафіі, давала раду заладзіць справы, што ей даручаліся. Кацярына была вернай жонкай свайму мужыку Данілу. Ня раз ратавала яго са савецкіх зьдзекаў. Перад сваей сьмерцю Даніла быў моцна спаралізаваны й патрабаваў цэладзённай апекі й Кацярына не аставіла яго, а даглядзіла да апошняга дня. Кацярына не зазнала бязтурботнага спакойнага жыцьця.

Няхай Госпад Бог аселіць ейную душу разам са справядлівымі ў Сваім нябесным валадарстве.

Сёлета ў горадзе St. Catherine, Канада 14 ліпеня адыйшоў ад нас на вечны супачын сп. Пётра Конюх. На сваім доўгім шляху, восемдзясят чатыры гады, ён зьведаў многа. Ён наведаў савецкія турмы й ссылку Сібір, Іран, Ірак, Палястыну, Італію, польскае войска Андэрса, ЗША й астанавіўся ў Канадзе. Пётра Конюх сьпявак, яшчэ зь Беларусі. Меў надзвычайны голас, таму ў Італіі меў доступ да Кансэрваторыі. Выкарыстоўвалі яго як сьпявака палякі. Праз 24 гады сьпяваў у хоры Жарскага, потым у украінскім мужчынскім хоры ў Канадзе. Вандраваў Пётра доўга й, вярнуўшыся, злажыў сваё цела на беларускім могільніку ў East Brunswick, ЗША сярод сваіх суайчыньнікаў.

Вечная памяць.

## РАСКЛАД КАЛЯДНЫХ БАГАСЛЫЖБАЎ

Пятніца 6-га студз. 1995 г. Куцьця
**5-я гадз. увечары Вялікая Павячорня**
Сыбота 7-га студз. 1995 г. Каляды
**10-я гадз. рана Сьв. Літургія.**
Нядзеля 8-га студз. 1995 г.
**10-я гадз. рана Сьв. Літургія.**
Сыбота 14-га студз. 1995 г. Новы Год
**10-я гадз. рана Сьв. Літургія.**
Нядзеля 15-га студз. 1995 г.
**10-я гадз. рана Сьв. Літургія.**
Серада 18-га студз. 1995 г. Шчодрык.
**5-я гадз. увечары Вялікая Павячорня.**
Чацьвер 19-га студз. 1995 г. Вадохрышча.
**10-я гадз. рана Сьв. Літургія**
**і асьвячэньне вады**
Нядзеля 22-га студз. 1995 г.
**10-я гадз. рана Сьв. Літургія**

## АБЫХОД СА СЬВ. ВАДОЙ

Чацьвер 19-га студзеня 1995 г.
**Toronto East and Richmond Hill.**
Пятніца 20-га студзеня 1995 г. **Oshawa.**
Сыбота 21-га студзеня 1995 г. **Montreal.**
Нядзеля 22-га студзеня 1995 г.
**Montreal** — Бабаслужба.
Панядзелак 23-га студзеня 1995 г.
**Kingston, Belleville.**
Серада 25-га студзеня 1995 г.
**Toronto Central.**
Чацьвер 26-га студзеня 1995 г.
**London, Stratford, Guelp, Cambridge.**
Пятніца 27-га студзеня 1995 г.
**Hamilton, Niagara Falls.**
Сыбота 28-га студзеня 1995 г.
**Toronto Weast.**
Панядзелак 30-га студзеня 1995 г.
**Oakville**
Аўторак 31-га студзеня 1995 г.
**Sudbury.**
Серада 1-га лютага 1995 г.
**Slutzak, Penetanguishene, Mansfield, Barrie**

а. Міраслаў Вайцюк.